© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

# Беларускі калекцыянер

№18 студзень-жнівень 1999г. Кошт свабодны



































Апошнім часам сярод калекцыянераў вельмі папулярнай становіцца навагодняя тэма. Штогод да гэтага свята выпускаецца шмат паштовак, канвертаў і марак. Беларуская філатэлія мае ўжо цэлы навагодні раздзел, які з кожным годам, спадзяемся, будзе папаўняцца.

Шаноўныя сябры і калегі! У новым 1999 годзе мы па-ранейшаму будзем працягваць выданне нашай газеты. Думаем за год выдаць чатыры нумары, каб адзін нумар прыходзіўся на квартал. Ад вас чакаем цікавых допісаў, у першую чаргу па тэме беларусіка.

Таксама патрэбны людзі, якія б узяліся распаўсюджваць нашу газету па клубах калекцыянераў. Асабліва ў Магілве і Брэсце. Нам працей даслаць некалькі асобнікаў на адзін адрас.

У 1999 годзе хочацца пажадаць усяго найлепшага нашай краіне і беларускім калекцыянерам. Беларусі пажадаць незалежнасці і вызвалення, а калекцыянерам – новых цікавых знаходак і адкрыццяў, папаўненняў калекцый і закрыцця тэмы «луканіяна». Жадаем усім шчасця і здароўя. Будзе жыць Беларусь – будзе жыць беларускае калекцыяванне.

**Ворша, 31.12.98г.**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Слова да чытачоў

Паважаныя сябры. Мінула шмат часу з моманту выхаду апошняга, 17 нумара газеты "Беларускі калекцыянер". І вось Вы трымаеце ў руках чарговы спараны нумар нашага выдання. Мусім растлумачыць, чаму адбыўся такі вялікі перапынак паміж нумарамі.

У студзені намі быў падрыхтаваны макет васемнаццатага нумара газеты. Паколькі на той час сродкаў, каб заплаціць за друк у нас не было, то мы звярнуліся да рэдактара газеты "Рабочий" Віктара Івашкевіча па дапамогу. Раней ён друкаваў шаснаццаты і семнаццаты нумар "Беларускага калекцыянера". У пачатку лютага макет быў перададзены спадару Івашкевічу. Але надрукаваць газету ў Менску на гэты раз усё не атрымоўвалася. У дадатак да ўсяго, у Воршы кампутар, на якім рабіўся макет газеты і захоўвалася ўся інфармацыя, што датычыцца "Беларускага калекцыянера", дае збой і ўсе матэрыялы, ужо набраныя, гінуць. Праз пяць месяцаў, стаміўшыся чакаць, калі спадар Івашкевіч зможа надрукаваць наклад "Беларускага калекцыянера", мы запатрабавалі вярнуць гэты макет назад.

Але атрымалася тое, чаго і трэба было чакаць – макет згубіўся. Шкада, што столькі працы, часу і грошай было змарнавана дарма. Як бы там ні было, мы будзем рабіць усё, каб прыхільнікаў беларускасці станавілася ўсё больш, а ворагаў нашых меншала.

*Рэдакцыя*


ПАЧТОВАЯ ПІСУЛЬКА.
ATVIRUTE. POSTKARTE. CARTE POSTALE. ПОЧТОВАЯ КАРТОЧКА.





# Аб грамадзянстве БНР

**Ідэя прыняцця грамадзянства БНР павінна ўсяляк падтрымлівацца і развівацца.**



Гэта акцыя не павінна ператварыцца ў чарговы перапіс свядомых беларусаў. Кожная ідэя чаго-небудзь варта, калі яна напаўняецца канкрэтнымі справамі. Адной з такіх спраў павінна стаць стварэнне ўласнай сістэмы ўзнагарод БНР. Ужо сёння на Беларусі дзесяткі змагароў з акупацыйным рэжымам варты таго, каб годна быць ушанаванымі нашай Бацькаўшчынай. У свой час паўстанцы Каліноўскага разумелі велізарнае значэнне ўзнагарод, дзеля чаго быў выраблены металёвы крыж, пакрыты чорнай фарбай. Гэтым крыжам адзначалі лепшых ваяроў, якія вызначаліся ў баях з маскоўскімі карнікамі. Будаўніцтва нашай дзяржавы патрабуе велізарных сродкаў. Гэтыя сродкі павінны збірацца сярод беларусаў. Мы прапануем увесці талер як грашовую адзінку Беларускай Народнай Рэспублікі. Праўда, эмісію талера рабіць пад канкрэтную справу. Скажам так, для вырабу медаля «Пагоня» трэба 20 000 даляраў. Рада БНР выпускае 20 000 талераў, якія распаўсюджваюцца сярод беларусаў па курсу адзін талер - адзін даляр. Талеры, якія будуць асядаць на руках, у будучым, калі на Беларусі будзе беларуская ўлада, можна будзе памяняць на нацыянальную валюту.

І яшчэ, кожны, хто прымае грамадзянства БНР, павінен ведаць, што ў любы момант да яго можа прыйсці чалавек з позвай. У позве будзе напісана - пара, прыйшоў час, Бацькаўшчына кліча.

*Б.К.*




© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013











# Луканіяна

ППРБ (Першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь), пакінуў пасля сябе вялікую колькасць самай разнастайнай атрыбутыкі. Гэта паштовыя маркі, узнагароды, грошы, паштоўкі, календары, якія маюць выяву Лукашэнкі ці ягонай сімволікі. Усё гэта будзе збірацца і захоўвацца калекцыянерамі, каб нашчадкі ведалі, якім цяжкім і складаным быў шлях да незалежнасці. Хацелася б, каб людзі не выкідвалі на сметнік усе тыя рэчы, якія нагадваюць пра часы кіравання Беларуссю ППРБ іх месца ў мурзеях і калекцыях пад агульнай назвай Луканіяна.

*Б.К.*











## Навіны банiстыкі




Не так даўно мне трапіўся незвычайны твор грашова-бухгалтарскага жанру, які адносіцца да навейшай гісторыі нашай дзяржавы.

Новая грашовая купюра ў 1 тысячу рублёў, створаная невядомым спецыялістам уяўляе крыху выпраўленую старую. І хаця выпраўленняў мала, але яны маюць глабальны характар, бо там, дзе пазначан намінал, стаіць прафесійна выкананы штампавы адбітак з "Пагоняй" і надпісам вакол: "Дазволена ў абарачэнне. Падскарбій Вялікага Княства Літоўскага".

Як бачым, паважаны чытач, гэтая купюра – выдатны прыклад, што з рэжымам можна змагацца ўсяк. Можна сядзець у турме. Можна стаяць у пікетах ці зношваць абутак на мітынгах і шэсцях. А можна паціху штампаваць купюры самага дробнага кошту (буйных напэўна шкада) з уласнай візай пра дазвол на абарачэнне. Можна меркаваць, што ўладам пасля смеху дзейнасць "Падскарбія" не надта спадабаецца.

*Аляксандр Ачэрэтні*
*(газ."Імя",№203, 3.06.1999г.)*



Выдаваць паштовыя маркі з партрэтамі жывых дзяржаўных дзеячоў не прынята. Такое права маюць толькі каралеўскія дынастыі. Праўда, на тэрыторыі Беларусі падобны прэцэдэнт ужо быў у 1942 годзе, калі была выпушчаная марка з партрэтам жывога фюрэра (для абарачэння на тэрыторыі Остланд – Беларусь).

*(Газэта "СВАБОДА", №94, 10.12.1996.)*




## Сюрпрызы пошты

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Лунінецкай пошце – 110 гадоў

У гісторыі Лунінецкай пошты ёсць тры даты, якія можна лічыць асноўнымі вехамі ў яе развіцці. Ліпень 1887 – адкрыццё ў Лунініцы паштовага аддзялення, лістапад 1888 – пераўтварэнне ў паштова- тэлеграфнае, 1916 (разгар першай сусветнай) – адкрыццё чыгуначнага паштовага аддзялення на вакзале.

У другой палове мінулага стагоддзя Лунінец - невялікае сяло Пінскага павета Мінскай губерніі з насельніцтвам нямногім больш за 350 чалавек. Рост яго пачаўся з будаўніцтва чыгункі. У 1884 годзе пракладзена чыгуначная лінія Баранавічы-Лунінец-Пінск. З будаўніцтвам чыгуначных ліній у 1885 годзе Лунінец-Сарны і ў 1886 – Лунінец-Калінкавічы пачынаецца далейшае развіццё станцыі і разам з ёю – сяла. Расце колькасць насельніцтва. З архіўных запісаў даведваемся, што ў Лунінцы да канца XIX стагоддзя ўжо “праваслаўных - 2 512, рымска-каталікоў - 319, іўдзеяў - 293, мужчын - 1 674, жанчын - 1 493, агульная колькасць жыхароў - 3 167 ”.

Дакументы, якія знойдзены ў архівах, падцвярджаюць, што Лунінецкая пошта пачалася са станцыі. Калі праз Лунінец пайшлі цягнікі з паштовымі вагонамі, з`явілася неабходнасць перагрузкі і прыёму пошты. Былі прызначаны паштовыя служачыя для выканання гэтых аперацый.

У “Зборніку распараджэнняў па Галоўнаму Кіраўніцтву пошт і тэлеграфаў” за 1885 год сказана: «прызначыць з нагоды адкрыцця руху па Лунінец-Гомельскай чыгуначнай дарозе – I/ аднаго памочніка загадчыка ніжэйшага аклада. 2/ трох раз`язданых чыноўнікаў вышэйшага аклада і 3/ чатырох паштовых служачых.» Гэтыя чыноўнікі абслугоўвалі паштовыя вагоны, якія праходзілі праз Лунінец ці прыходзілі сюды. У тым жа зборніку за 1886 год Лунінец узгадваецца як станцыя для прыёму і выдачы пошты – “ ...па прычыне адкрыцця Лунінец-Гомельскай чыгункі ад станцыі Лунінец (Вільна – Роменскай дарогі) да станцыі Гомель (Лібава-Роменскай дарогі). Перавозку па ей пошты даручаюць паштова-тэлеграфным і паштовым установам. Гэта пісьмовая, бандэрольная карэспандэнцыя і перыядычныя выданні, якія адрасаваны на станцыі азначанай дарогі, а менавіта – Лунінец...”. З гэтага цыркуляра бачна, што ў 1886 годзе на Лунінецкай станцыі быў інтэнсіўны абмен паміж паштовымі вагонамі. А для захоўвання абменнай пошты быў пабудаваны недалёка ад станцыі будынак, у якім захоўвалася пошта, а потым з ліпеня 1886 года ў ім размясцілася гарадская паштовая кантора. Уся карэспандэнцыя, якая дастаўлялася паштовымі вагонамі да станцый прызначэння, запакоўвалася ў мяшкі, на якія наклейваліся спецыяльныя паштовыя ярлыкі. У маёй калекцыі такіх ярлыкоў некалькі, на адным з іх надпіс: “Ізъ поч. Вагона № 30 Въ Лунинецъ. Мъшокъ №...” З другіх дакументаў таго часу даведваемся, што паштовая станцыя Лунінец значыцца ў “Паштовым падарожніку Расейскай імперыі за 1888 год у маршруце № 18 Брэст-Літоўск-Руза”. У лістападзе 1888 года ў “Паштова-тэлеграфным журнале” адзначалася, што паштовае аддзяленне ў Лунінцы ператворана ў паштова – тэлеграфную кантору.




Изъ поч. вагона № 30

**Въ Лунинецъ**

Мѣшокъ №

Такім чынам, Лунінец быў уключаны ў адзіную расейскую тэлеграфную сетку, што дало магчымасць жыхарам ужо стаўшага вялікім сяла дасылаць тэлеграмы ва ўсе канцы імперыі.

Яшчэ раней быў устаноўлены тэлеграфны апарат Морзэ на станцыі. Тэлеграф тут меў свае імянныя бланкі тэлеграм жоўтага колеру з надпісам буйным шрыфтам “Палескія чыгункі”, да якіх ён належыў. Да іх адносіліся лініі Лунінец-Баранавічы-Ліда і Гомель-Лунінец-Брэст. Вакзальнае паштовае аддзяленне ўжывала для гашэння карэспандэнцыі авальны штэмпель з надпісам “Лунінец-Вакзал”. У цэнтры – дата.




У той час Лунінецкай поштай ужывалася некалькі відаў паштовых штэмпеляў. Яны адрозніваліся літарнымі індэксамі, памерам і розным напісаннем: “Мінск губер”, “Мін”, “Мінск Г”, “Мінск”. Прымяняліся яны да 1921 года. Для заказных лістоў пошта ўжывала спецыяльную наклейку з чырвонай вялікай літарай “З” і чорным надпісам “Лунінец” у чырвонай рамцы.






На працягу многіх гадоў, задоўга да 1914-га, перавозка пошты ад паштовай канторы да навакольных вёсак, дзе меліся паштовыя аддзяленні, за вызначаную плату аддавалася ў рукі прыватных асоб, якія мелі коней. Арганізоўваліся таргі, і права на перавозку атрымліваў той прэтэндэнт, які згаджаўся на меншую суму. У паштовага дэпартамента на ўтрыманне возчыкаў пошты і паштовых коней не хапала сродкаў.

Лунінецкую пошту доўгі час вазіў Гольцман, уладальнік некалькіх коней. Ад дзяржавы ён атрымліваў за гэта 420 рублёў у год. Чарговы тэрмін кантракту з ім у Лунінецкай паштова-тэлеграфнай канторы закончыўся 24 кастрычніка 1915 года. Пасля гэтага ён яшчэ вазіў пошту 3 месяцы, але потым адмовіўся з-за малой платы. У рапарце ва Упраўленне Мінскай паштовай акругі начальнік Лунінецкай паштова-тэлеграфнай канторы Антон Кузьміч Батурын (а памочнікам у яго быў Аляксандр Канстанцінавіч Лякчэўскі-Самотня) паведамляў, што ўгаворы не дапамаглі, а наняць новага чалавека немагчыма, бо: “большинство жителей, напуганные налетами неприятельских аэропланов, выехали из Лунинца”. Ранейшы ж возчык Гольцман “пользуясь создавшимся положением выпрашивал за возку почт в новом периоде... по 1 500 р. в год. И на предложение понизить выпрошенную сумму хотя бы до 800 р. в год вовсе отказался от дальнейших переговоров, других же желающих принять подряд не оказалось, так как Лунинец находится вблизи позиций и цены на фураж весьма высокие”.

Кантора прымала меры, каб знайсці каго-небудзь - вынікаў ніякіх.

І ўсе ж выйсце са становішча было знойдзена. Як адзначаецца ў рапарце, «чтобы не приостановить перевозки почт, начальник Лунинецкой почтово-телеграфной конторы приобрёл собственную лошадь для перевозки почты»

(працяг на стар.5)

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013


*(працяг, пачатак на стар. 4)*

і разам са служачымі канторы стаў развозіць пошту ў горадзе і наваколлі. Куплю каня павінна было зацвердзіць Галоўнае Упраўленне пошт і тэлеграфаў Расіі, і з Мінску запытанне перасылалі ў Пецярбург. Пасля некалькіх месяцаў чакання ў чэрвені 1916 года атрыман адказ: "Главное управление утверждает сделанное Вашим Высокородием распоряжение о перевозке лунинецких почт хозяйственным способом с расходом на сей предмет по 480 рублей в год, впредь до приискания выгодного для казны постоянного извозчика". На гэтым бядоты Лунінецкай пошты не скончыліся.

З-за павялічанага аб'ёму перавозак (у той час у горадзе былі размешчаны тылавыя воінскія часці, склады, шпіталі, бежанцы, воінскія каманды са сваёй палявой поштай і г.д., што садзейнічала павелічэнню аб"ёму пошты), нізкай аплаты працы, дарагавізны фуражу, небяспечнасці паездак другі падрадчык Дзятлавіцкі, які вазіў пошту па паштоваму тракту Лунінец-Вулька і Лунін-Лобча-Парахонск, адмовіўся ад кантракта ў студзені 1917 года. Іншых возчыкаў на гэты паштовы тракт Лунінецкая кантора знайсці не змагла. Шматгадовая пастаянная паштовая сувязь паміж Лунінцам і Парахонскам была перапынена. Пошта перасылалася і перапраўлялася ад выпадку да выпадку. Дарэчы, у Пінску пошту перавозіў брат лунінецкага возчыка Лейзер Дзятлавіцкі.

У ваенныя гады ўскладнілася само становішча пошты. Вось толькі адзін тагачасны эпізод. У канцы 1917 года Лунінецкая паштовая кантора аказаліся без запасу дроў на зіму. Па тагачасных правілах мясцовае лясніцтва магло адпусціць дровы тым, хто меў у іх патрэбу, толькі з дазволу Галоўнага ўпраўлення, і, нягледзячы на ваенны час і падзеі кастрычніка 17-га, ніякіх самавольных высечак не дапускалася. Усе арганізацыі, установы, воінскія часці строга прытрымліваліся закону. Таму начальнік канторы Батурын звярнуўся 18.10.17 г. да лунінецкага ляснічага Бабыніна з хадайніцтвам на атрыманне 15 кубічных сажняў дроў. Але ляснічы не мог адпусціць дровы без дазволу вышэйстаячай арганізацыі. Таму 27.10.17 г. (а 25.10.17 г. у Петраградзе адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя!) ляснічы піша тэрміновы рапарт у Мінскае ўпраўленне земляробства і дзяржаўных маемасцей. У сваю чаргу і гэта інстанцыя не магла дазволіць высечку лесу без санкцыі на тое Ляснога дэпартаменту і Мінскага губернскага зямельнага камітэта. Таму 17.11.17 г. у гэтыя ўстановы былі накіраваны лісты, у якіх гаварылася, што "в Лунинецкой даче лесосек с дровяным лесом в настоящее время нет, поэтому просимые дрова возможно заготовить при выборочной рубке березы и осины в насаждениях с господством сосны" і што ўпраўленне земляробства "просит сообщить в возможно непродолжительном времени свой отзыв о согласии или несогласии на этот отпуск дров". У адказе на гэтыя лісты ад 27 лістапада паведамлялася, што на гэтую просьбу "не встречается препятсвий".

Але карэспандэнцыя з Ніжняга Ноўгарада ішла вельмі доўга. Амаль усе дзяржаўныя ўстановы былі эвакуяваны ў пачатку вайны на Волгу (у Мінскай губерніі ваеннае становішча было ўведзена 18 ліпеня 1914 года, 19-20 прайшла мабілізацыя, а да канца 1915г. 11 устаноў і прадпрыемстваў былі эвакуяваны).

Адказ затрымліваўся. Пачалася зіма. Служачыя паштовай канторы працавалі ў памяшканнях, якія не ацяпляліся. Таму 30 лістапада ў Ніжні Ноўгарад накіроўваюць экстраную тэлеграму з просьбай аб паскарэнні адказу, затым 9 снежня – яшчэ адну з адзнакай "весьма экстренно". Нарэшце 17 снежня 1917 года ўсе адказы на прашэнні былі атрыманы і лясніцтва дало дровы Лунінецкай пошце.

У гады першай сусветнай вайны на Лунінеччыне былі адкрыты 2 паштовыя аддзяленні ў Кажан-Гарадку і ў Мікашэвічах. Але перапіска па гэтаму пытанню вялася яшчэ са студзеня 1909 года. Па існуючых тады патрабаваннях жыхары Кажан-Гарадка павінны былі ўнесці 195 рублеў на набыцце неабходнага паштовага абсталявання і імянных паштовых штэмпеляў, на працягу 3-х гадоў уносіць грошы на канцылярскія расходы, бясплатна выдзеліць дом з 5 пакояў з ацяпленнем і асвятленнем для паштовага аддзялення, бясплатна перавозіць пошту. Жыхарам Кажан-Гарадка гэтыя ўмовы былі непасільнымі і 4-гадовая перапіска паміж валасным праўленнем Кажан-Гарадка, Лунінецкай паштовай канторай і ўпраўленнем Мінскай паштовай акругі была безвыніковай. Адзін з лістоў за подпісам старшыні валаснога праўлення А.Гірмановіча і пісара І.Карнашэвіча паведамляе: "... исполнить данное обязательство волосным сходом 28 июля 1913 года за №16 не представляется возможным". Што датычыць 5-пакаевага дома, то "такового не оказалось" у мястэчку.

Але яшчэ ў 1899 годзе ў "Правительственном вестнике" было апублікавана распараджэнне МУС Расіі аб часовых паштовых правілах, у якіх указвалася, што "волостные правления имеют право производить прием и выдачу простой и заказной корреспонденции и продажу знаков почтовой оплаты". Абавязкі паштавіка ўскладаліся на пісара валаснога праўлення. Такая "валасная пошта" не патрабавала затрат, і дзяржаве было выгадна іх развіваць у сельскай мясцовасці. З улікам гэтага ў снежні 1913 года пры Кажан-Гарадоцкім валасным праўленні былі "открыты почтовые операции". У мястэчку з`явілася паштовая скрынка. Але ўжо праз месяц жыхары адчулі незадаволенасць гэтай работай. Пошта доўга ляжала ў праўленні, не адпраўлялася па назначэнню, марудзілі з раздачай карэспандэнцыі, якая патсупала. Зноў пачаліся просьбы аб адкрыцці дзяржаўнай пошты. І толькі "в связи с военными действиями" у верасні 1916 года было адкрыта "почтовое отделение общего типа в местечке Кажан-Городок".

У пачатку 1919 года сакратарыят наркама сувязі ЛітБела разаслаў усім паштова-тэлеграфным канторам (ПТК) цыркуляр, падпісаны палітычным эмісарам пошт і тэлеграфаў Літвы і Беларусі Марголіным, аб складанні даведкі наяўнасці камуністычных ячэек.

Сярод некалькіх дзесяткаў лістоў з адказамі, якія захоўваюцца ў архівах, два – з Лунінецкага раена.

Першы: "4 чэрвеня 1919 года г.Лунінец. 11 мая г.г. пры Лунінецкай ПТК мною была арганізавана камуністычная ячэйка спачуваючых, якая зацверджана Пінскім камітэтам партыі бальшавікоў. Пратакол ад 17 мая. Пасля вызначанага часу некаторыя члены ячэйкі сталі вагацца і пад рознымі прычынамі падаваць заявы аб выключэнні. У цяперашні час ячэйка складаецца з 6 членаў".

Другі: "6 мая 1919 г. Лахва. Паведамляю, што з-за нешматлікасці штату канторы ячэйкі пры ей няма. Большасць служачых уваходзіць у мясцовую валасную ячэйку, якая мае сувязі з павятовым Мазырскім партыйным камітэтам, дзе зарэгістравана ячэйка, арганізаваная 13.2

*( працяг на стар. 6)*




© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*(працяг, пачатак на стар. 4)*

г.г.".

Ёсць яшчэ невялікія сведчанні, што ў сувязі з ваеннымі дзеяннямі ў маі ў Лунінец было эвакуявана паштовае адзяленне з Хатыніч Мінскай губерніі і частка яго маемасці размешчана ў мясцовай ПТК. А вось цікавая тэлеграма з Лунінца ў Смаленск (там знаходзіліся ўсе ўстановы наркамата сувязі рэспублікі): "З-за паступлення тэрміновых ваенных апаратыўных тэлеграм у начны час прашу тэрміновага загаду ўстаноўкі поўнага сутачнага дзеяння ў Лахве, Мікашэвічах, Леніне... Заг. Кант. Батурын 25.6.1919 г.". Цяжкае становішча на фронце патрабавала ад работнікаў пошты кругласутачнай працы. У адным з апошніх выяўленых дакументах за 5 жніўня 1919 г. сказана: "Па ваенных абставінах закрыць усе аперацыі ў ... Лунінцы, Чучавічах, Лахве..."

20 ліпеня 1920 года Чырвоная Армія вызваліла Лунінец. Сумнае відовішча прадстаўляла сабою пошта. Абсталяванне вывезена, разбіта, сапсавана. Будынак пошты напалову спалены. Хутка сюды была накіравана аднаўленчая калона са старшым механікам Мацюшам, які пастаянна паведамляў у наркамат сувязі аб ходзе работ.

Малодшы механік Яфім Паўлавіч Герасімовіч стварыў спецыяльную брыгаду (21 рабочы) для аднаўлення Лунінецкага вузла сувязі. На яе "узбраненні" меліся тры рыдлеўкі, сякера, тры пары кіпцюроў, тры ломікі для скручвання дроту на слупах, адзін ключ для мацавання ізалятараў, адзін блок з талямі і вяроўкай. Нягледзячы на агульныя цяжкасці ў гаспадарцы ўсей рэспублікі, Наркамат сувязі знайшоў магчымасць выдатказаць Лунінцу неабходныя матэрыялы, інструменты, апаратуру.

Асабліва складана было аднаўляць сувязі на чыгуначнай лініі Лунінец – Баранавічы. Новыя слупы давялося ставіць у балоцістым грунце, заганяць рэйкі-сваі, стоячы па пояс ў халоднай вадзе, разбіраць завалы разбураных вагонаў. Такімі ж цяжкімі былі работы і на Сарненскай лініі. Але ў пачатку верасня тэлеграфная і тэлефонная сувязь Лунінецкай ПТК была адноўлена на ўсіх чатырох напрамках: Пінск, Баранавічы, Сарны, Жыткавічы.

Аднак у гэты час рэзка пагоршылася абстаноўка на фронце. Ужо 16 верасня прадстаўнікі франтавых часцей забралі ў свае распараджэнне ўсе тэлеграфныя лініі сувязі, пакінуўшы для насельніцтва толькі пошту. У канцы верасня 1920 года Лунінец захапілі палякі.

У пачатку 20-х гадоў польскія ўлады правялі рэарганізацыю паштовай службы на землях Заходняй Беларусі. Некаторыя паштовыя аддзяленні




былі зусім закрыты, іншыя, напрыклад, Лунінецкае агенства, атрымала ніжэйшы клас.

У пачатку 30-х гадоў гарадская пошта атрымала пяты клас, у сярэдзіне – 3. Тлумачыцца гэта ростам горада, у якім тады налічвалася 8.3 тыс. жыхароў, а ў павеце – 108.546. У тыя гады ў Лунінецкі павет уваходзілі Ганцавічы, Малькавічы, Хатынічы і іншыя мястэчкі. У многіх з іх, а дакладна – 17-ці, дзейнічалі паштовыя аддзяленні.

У 20-я гады гарадская по-




шта яшчэ размяшчалася у старой драўлянай пабудове мінулага стагоддзя. У выніку пажару пошта згарэла. Гарадскія ўлады арандавалі першы паверх каменнага будынку у домаўладальніка Каца. Тут пошта знаходзілася з пачатку 30-х гадоў да 1944 года. На ўвесь горад было толькі тры паштовыя скрыні (па іншых звестках – 5). У маей







філатэлістскай калекцыі за перыяд 1921-1939 гады ёсць некалькі штэмпеляў паштовых вагонаў, - "Лунінец - Брэст над Бугам №283", "Мікашэвічы - Брэст над Бугам № 283", "Баранавічы – Лунінец №288". Паштовае аддзяленне пры вакзале, якое існавала амаль з пачатку стагоддзя, было зачынена, а замест яго з сярэдзіны 30-х гадоў была арганізавана так званая перонная пошта.

Яна працавала толькі ў час прыходу пасажырскіх паяздоў, якія ішлі праз Лунінец. Уздоўж поезда хадзіў работнік пошты з латком, прапаноўваючы пасажырам паштовую паперу, маркі, паштоўкі, тут жа можна было даць тэлеграму. На ўсей карэспандэнцыі, якая была прынята служачымі пошты, ставіўся прамавугольны штэмпель ружовага колеру з надпісам "Лунінец. Перонная пошта".

Яшчэ адзін цікавы факт. У 1936-1939 гадах у Лунінцы працавалі два прыватныя паштовыя пасрэдніцтвы. Яны знаходзіліся ў газетных кіесках, адзін з якіх размяшчаўся на цяперашняй Прывакзальнай плошчы, другі - на вуліцы Садовай. Тут прадавалася паштовая прадукцыя, прымаліся простыя і заказныя лісты, тэлеграмы. Уладальнікі кіескаў – М.Бясан і Е.Касцюшка – аказвалі дапамогу ў напісанні лістоў непісьменным кліентам. На гэтых пісьмах ставіліся штэмпелі з прозвішчамі пасрэднікаў.

У верасні 1939 года Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР. Ужо на другі дзень вызвалення Заходняй Беларусі пачала работу пошта. 3-5 кастрычніка газета "Советская Белоруссия" паведаміла аб стварэнні 8 буйных аддзелаў пошт і тэлеграфаў пры часовых




Pośrednictwo
Pocztowe
Kiosk Nr 2 J.Biesana
ul. Młodzianowskiego
.............. 1935 r. Nr ......
m.Łuniniec

*Штэмпелі прыватнага паштовага пасрэдніцтва 1935 і 1939 г.г. у Лунінцы*




*( працяг на стар. 7)*

| | | |
|---|---|---|
| OKRĘG Wileński | Kobryn | |
| | Księgarnia kolejowa „Ruch" | Dworzec kolejowy |
| | Łuniniec | |
| | Nr 1 Kiosk gazetowy i tytoniowy E. Kościuszki | ul. Okrzeji |
| | Nr 2 Kiosk gazetowy J. Biesana | ul. Młodzianowskiego |
| | Nowa Wilejka | |

*Прыватныя паштовыя пасрэдніцтвы Лунінца ў спісе 1939г. Віленскай паштовай акругі Польшчы*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013


*(працяг, пачатак на стар.4)*

кіраўніцтвах гарадамі. Адзін з іх быў размешчан у Лунінцы. Да кастрычніка 1939 года паштовая сувязь была поўнасцю наладжана на ўсей тэрыторыі Заходняй Беларусі. У Берасце, Горадню, Ліду, Ваўкавыск, Пінск, Лунінец, Баранавічы, Наваградак і іншыя населеныя пункты пачалі рэгулярна ажыццяўляць рэйсы паштовыя самалеты з Масквы і Мінска, дастаўляць карэспандэнцыю і газеты.

25 кастрычніка вечарам ад мінскага вакзала адышоў першы паштовы поезд з 10 вагонаў. Часовыя гарадскія ўпраўленні прынялі меры па паляпшэнню паштовай сувязі, былі арганізаваны курсы работнікаў сувязі заходніх вобласцяў па азнаямленню з умовамі работы на прадпрыемствах сувязі СССР, выдаваліся паштовыя правілы, якія дзейнічалі на тэрыторыі СССР. Такіе курсы былі адкрыты ў Пінску, Лунінцы, Берасці, Баранавічах.

У рабоце пошты некаторыя цяжкасці выклікала адсутнасць на месцах Савецкай паштовай прадукцыі. І хаця па паведамленнях газет да 5 кастрычніка ў Заходнюю Беларусь з Мінска паслалі на адзін мільен рублеў паштовых марак, 600 тысяч канвертаў і адзін мільен паштовых картак, іх не хапала. Таму пошта паўсюдна выкарыстоўвала маркі, штэмпелі, паштовыя канверты і карткі старога ўзору разам з новымі савецкімі.

Такое становішча было ў Берасці, Горадні, Пінску, Баранавічах, Лунінцы і іншых гарадах. Сення ў калекцыях філатэлістаў захоўваюцца цікавыя паштовыя дакументы таго часу. Сярод іх канверты з савецкімі і польскімі маркамі, пагашаныя польскімі штэмпелямі, ці польскія паштовыя карткі і канверты з савецкімі маркамі. Вось адзін з такіх канвертаў з наклеенай савецкай паштовай маркай, але пагашанай штэмпелем старога ўзору "Лунінец 27.09.1939г.". Стары штэмпель тут ужываўся да 1940 года - моманту стварэння Лунінецкага раена.

У канцы 1939 года была арганізавана Брэст – Літоўская




*Мясцовы канверт. 27.09.39. Марка савецкая, штэмпель - польскі*

чыгунка. Значыць роля Лунінца як буйной вузлавой станцыі ўзрасла, бо адкрыўся напрамак Лунінец - Гомель. Паштовую кантору горада і аддзел перавозкі пошты па чыгунцы абслугоўвалі некалькі паштовых вагонаў, - №403, 404 на участку Львоў – Лунінец – Ліда і № 455, 456 Брест-2 – Лунінец – Мікашэвічы. Некалькі вагонаў не мелі нумароў. У 1940 годзе цэнтральнае ўпраўленне паштовай сувязі пры народным камісарыяце сувязі СССР выдала «трактавы ўказальнік паштовых вагонаў заходніх абласцей Украінскай і Беларускай ССР і алфавітны спіс паштовых прадпрыемстваў заходніх абласцей Украінскай і Беларускай ССР» у якіх былі прыведзены вышэй упамянутыя звесткі.

Перыяд 1939 і пачатак 1940 гадоў вельмі цікавы ў гісторыі беларускай пошты, але мала вывучаны. У 1940 годзе ўжо ўсюды былі адабраны старыя польскія штэмпелі і Лунінецкая пошта пачала выкарыстоўваць новыя з надпісам "Лунінец, Пінск, вобл.".

У першыя дні вайны фашысты некалькі разоў бамбілі Лунінец, але будынак пошты не пашкодзілі, аднак паштовае абсталяванне, як і абсталяванне ўсіх прадпрыемстваў горада, не паспелі вывезці. Яно было захоплена ў пачатку ліпеня акупантамі. Больш таго, ў будынку Лунінецкай пошты апынулася ўся гаспадарка, эвакуяваная з Пінскай абласной паштовай канторы, што падцвярджаецца ўспамінамі з кнігі маршала войск сувязі І.Т.Пе-







| | |
|---|---|
| ...цевичского | 403, уч. Лунинец—Барановичи |
| Лука, А. БССР, Белосток., Свислочского | Свислоч 453, уч. Волковыск—Черемха |
| Луки, А. БССР, Баранович., Столбцовского | Городея 41, уч. Столбцы—Барановичи |
| Лунин, А. БССР, Пинск., Лунинецкого | 455, уч. Янов—Лунинец |
| Лунинец, К. центр района, БССР, Пинск. | 403, 455 |
| Лунинец, ст. Бр.-Лит. жд, БССР, Пинск., Лунинецкого | 403, 455 |
| Лунна, О. БССР, Белосток., Скидельского | ПВ без № Гродно—Мосты, 401, 453, 461 |
| Луцк, ст. Ковел. жд. Укр., Волынск., Луц. | 401, уч. Львов—[illegible] |

**Лунинецкий р.**

| | | |
|---|---|---|
| Ловча<br>Лунинец | Лунин<br>○ Лунинец | |
| | ПВ № 403, уч. Лунинец—Лида<br>ПВ № 404, уч. Лунинец—Львов | |
| Лахва | Лахва | Кожангородок |

*Трактавы ўказальнік паштовых вагонаў заходніх абласцей Украінскай і Беларускай ССР і алфавітны спіс паштовых прадпрыемстваў заходніх абласцей Украінскай і Беларускай ССР*

расыпкіна "Сувязісты ў гады ВАВ" ( выдавецтва "Сувязь", Масква, 1972г.)

Пасля захопу горада фашыстамі работа пошты спынілася. Усе паштовыя ўстановы, размешчаныя ў раёне, былі разрабаваны і зачынены. Якіхсьці звестак аб рабоце пошты на акупаванай тэрыторыі ў савецкай філатэлічнай ці іншай літаратуры знайсці не давялося.

У рэшце рэшт я звярнуўся да свайго сябра, філатэліста з ГДР. Ад яго я атрымаў кнігу-каталог, выдадзеную ў 1960 годзе ў ФРГ, аб рабоце нямецкай пошты на часова акупаванай тэрыторыі СССР.

Для абслугоўвання нямецкіх устаноў была арганізавана так званая нямецкая служба пошты: (Die Deutshe Dienstpost). Яе аддзяленне адкрыта 24 лютага 1942 года ў Лунінцы, крыху пазней – у Лахве (у Брэсце і Пінску – у верасні 1941 года).

Гэта пошта выкарыстоўвала цікавыя з боку гледжання і філатэліі, і гісторыі штэмпелі. Напрыклад, пошта ў Лахве выкарыстоўвала двухрадковы штэмпель з надпісам на нямецкай мове "LACHWA/Uber Luninec" ("Лахва./ каля Лунінца").

Лунінецкая службовая нямецкая пошта выкарыстоўвала 3 асноўныя штэмпелі:




адзін з іх польскі, узору 1939 года, з пераводнай датай і надпісам "Luniniec", які адрозніваецца індэксам "е". Гэты штэмпель не быў знішчаны пры Савецкай уладзе і быў захоплены аку-

*( працяг на стар. 8)*




© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013  © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*(заканчэнне, пачатак на стар.4)*

пантамі разам з рэшткамі паштовага рыштунку пасля адыходу Чырвонай Арміі. Два другія (гумовыя) былі выраблены спецыяльна для службовай пошты. Яны ўяўлялі сабой надпіс назвы пошты на нямецкай мове ў адзін або два рады. – "Лунінец (Украіна)" і "Лунінец/ля Пінска (Украіна)". У 1944 годзе гэтыя штэмпелі былі перароблены ў сувязі са змяненнем напісання назвы горада – з "Luniniec" на "Luniniez".

Падчас акупацыі ў Лунінцы працавала не толькі нямецкая служба пошты, якая, як паведамлена раней, абслугоўвала толькі нямецкія прадпрыемствы, фірмы і г.д., але і звычайная грамадская пошта, якая пачала работу дзесьці з канца 1941 года. На гэтай пошце прадаваліся маркі з надпісам "Ukraine".

Справа ў тым, што фашысты ўвялі новае адміністрацыйнае дзеленне на Беларусі, парушыўшы яе тэрытарыяльную цэласнасць. Частка рэспублікі разам з Прыбалтыкай была ўключана ў склад камісарыята "Остланд" з цэнтрам ў Рызе, а паўдневыя раены Берасцейскай, Пінскай, Палескай і Гомельскай абласцей (па лініі Брэст – Мазыр) былі далучаны да рэйхскамісарыята "Украіна". На гэтай тэрыторыі забаранялася беларуская мова, уся дзелавая перапіска вялася на нямецкай, украінскай мовах.

У ліпені 1944 года прыйшло вызваленне. Паўсюдна стаялі абгарэлыя будынкі, разбурэнні, папялішчы. Пацярпеў і будынак пошты. Ён поўнасцю выгараў у сярэдзіне, быў паўразбураны, патрабаваў капітальнага аднаўлення. Чакаць рамонту не было калі. Пошту і тэлеграф размясцілі ў драўляным доме. Пасля тэлеграф там і застаўся, а пошта пераехала ў другі дом.

Як і ўсе гарадскія ўстановы таго часу, пошта працавала напружана, на хапала самых элементарных і неабходных рэчаў, штэмпеляў, масціці, паперы, канвертаў, паштовых картак, бланкаў квітанцый. Даводзілася карыстацца адваротным бокам розных трафейных папер, маляваць чарніламі ад рукі паштовыя штэмпелі для заказных лістоў. Пазней у лістападзе 1944 года хтосьці з работнікаў пошты выразаў з гумы заказны штэмпель, якім карысталіся даволі працяглы час.



*Верасень 1944. Ліст з Лунінца ў Кажан-Гарадок (Лунінецкі р-н). Заказны штэмпель напісаны ад рукі. На касынцы бачны штэмпель вайсковай паштовай цэнзуры Лунінца - Н25444*



А што ж лунінецкі аддзел перавозкі пошты на чыгунцы? У выніку ваенных дзеянняў усе станцыйныя будынкі былі разбураны. Таму да прыему пошты з паштовых вагонаў быў прыстасаваны зняты з колаў вялікі трафейны пасажырскі вагон, які быў устаноўлены на пероне. Тут жа можна было набыць маркі, паштоўкі, адправіць лісты. Пошта-вагон праіснавала да ўвядзення новых станцыйных будынкаў.

Жыцце паступова наладжвалася. Пошта атрымала ўсе неабходнае, а на пачатку 60-х гадоў заняла новы будынак. Адкрылася новае аддзяленне сувязі ў раене Залесся, дзе раней пошта адсутнічала і трэба было бегчы ў горад. З"явіліся новыя штэмпелі, па якіх таксама можна прасачыць гісторыю.

*Леў Коласаў. Намеснік старшыні беларускага саюза філатэлістаў.*








*Паштовы штэмпель аддзела перавозкі пошты (АПП). 1962*

## У Лунінецкай пошты свой музей

**Ідэя яго стварэння нарадзілася летась, калі калектыў рыхтаваўся да 110-годдзя сваей арганізацыі. Менавіта тады начальнік райвузла Мікалай Аляшкевіч звярнуўся да паштавікоў з просьбай шукаць матэрыялы, якія адлюстроўваюць гісторыю станаўлення сувязі на Лунінеччыне.**

Заклікам, дарэчы, М.Аляшкевіч не абмежаваўся. Сам паехаў да ветэранаў калектыву, у сем`і былых работнікаў, наведаў краязнаўчы музей, рэдакцыю раённай газеты... Дзе толькі можна, збіралі і збіраюць зараз Мікалай Мікалаевіч і яго аднадумцы розныя экспанаты.

Цяпер іх ўжо звыш тысячы: фотаздымкаў, дакументаў, успамінаў, выразак з газет і часопісаў. Асобны раздзел адведзены ордэнам і медалям, якімі ўзнагароджаны работнікі арганізацыі за баявыя і працоўныя подзвігі. Знайшлося месца і для кнігі "Паштовыя дарогі Беларусі" ураджэнца Лунінца Льва Коласава.

Для захоўвання найбольш каштоўных экспанатаў зараз рыхтуецца спецыяльны пакой. Але сам музей ужо дзейнічае. Больш за 40 стэндаў і планшэтаў, што ўпрыгожылі сцэны калідораў адміністрацыйнага будынка паштавікоў, штодзень прыцягваюць увагу наведвальнікаў.

Спыніўся ля іх і я. Углядаўся ў фотакарткі, учытваўся ў тэкставыя матэрыялы. Сумленнымі, працавітымі, душэўнымі людзьмі паўставалі перада мной дзесяткі і сотні тых, хто прысвяціў жыцце развіццю паштовай сувязі гэтага кутка беларускага Палесся. Сярод іх – Марыя Дзянісаўна Рыбчынская, якая адпрацавала ў райвузле больш за 40 гадоў, Аляксандр Андрэявіч Гопта, што прыйшоў сюды адразу пасля вайны, прадстаўнікі паштовай дынастыі Кацубаў, агульны стаж якой складае каля ста гадоў...

Эстафету добрых спраў калектыву дастойна нясуць сенняшнія паштавікі. Пра гэта сведчыць хоця б Кубак "Лепшы вузел паштовай сувязі", уручаны Лунінецкаму РВПС за перамогу ў рэспубліканскім галіновым спаборніцтве па выніках першага паўгоддзя мінулага года.

**Пётр Дружынін («Народная Газета», №11-12, 1998г.)**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# РЭПІН, ФІЛАТЭЛІЯ, ЗДРАЎНЕВА

Працяглы час аўтары артыкулаў, прысвечаных творчасці Іллі Рэпіна (1844-1930), не маглі дакладна вырашыць, хто пазіраваў мастаку для карціны "Беларус". Адны называлі Сцяпана Крывенку, другія – Сідара Шаўрова. Гэта цікавіла шмат каго. Але толькі былы старшыня Народнага Сакратарыята БНР Язэп Варонка здагадаўся паспець звярнуцца з просьбай адказаць на гэта пытанне да самаго Рэпіна. Адказ мастака быў надрукаваны 26 кастрычніка 1926 г. у першым нумары газеты "Беларуская трыбуна" (Чыкага): "Беларус" писан в 1892 году в именьице моем Здравнево, в 17-ти верстах от Витебска, - Верховской волости, - стоящем на р.Западной Двине. За рекой против нас, жил крестьянин Сидор Шавуро, он позировал мне стоя на воздухе перед окном моей мастерской (...) "

Гэты ліст толькі адзіны з вялікай колькасці іншых лістоў і паштовак, якія распавядаюць аб жыцці выдатнага расейскага мастака і яго родных у Здраўневе. Наогул ліставанне, пошта - гэта асобны свет са сваей культурай і традыцыямі, якія зараз амаль страчаны. Менавіта лістам мастак давяраў самыя патаемныя пачуцці, думкі аб мастацтве, творчых пошуках і будзёныя справы. І гэта вялікай каштоўнасці крыніца, якая дае магчымасць наблізіцца да таго часу, калі адрас Рэпіна быў просты: "Віцебск, Здраўнева".

Меў Рэпін і непасрэднае дачыненне да філатэліі. Дакладней – да філакартыі. З канца 1890-х гадоў мастак на дабрачынных пачатках даваў свае малюнкі для друкавання паштовак Абшчыны св.Яўгеніі. Сродкі ад продажу якіх ішлі на медыцынскую дапамогу немаёмным і ўтрыманне бальніц. Захаваўся ліст мастаку з удзячнасцю ад выдаўцоў: "Благодаря Вашему участию в издании художественных открытых писем в пользу Общины св. Евгении, издание комитета с выпуском Ваших рисунков получило прочное основание и имеет обширный успех как у




нас, так и за границей; художественные открытые письма с Вашими рисунками распроданы без остатка" (25 кастрычніка 1901г.).

Наогул, на пачатку 20 ст. паштовак з выявамі твораў Рэпіна было выдадзена безліч. Сярод іх – здраўнеўскія: "Дуэль" ( два варыянты), "Восеньскі букет", "Партрэт В.І.Рэпінай на ганку" і знакаміты "Беларус".

. Рэпін наведваў Беларусь на працягу 1892-1902 гг. і апошні раз у 1904г., але ўжо ў 1899г. набыў новы маентак "Пенаты" пад Пецярбургам. Здраўнева стала месцам адпачынку родных мастака. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі "Пенаты" адышлі да Фінляндыі, а з імі апынуўся ў эміграцыі і састарэлы мастак. Але амаль да самай смерці 29 верасня 1930 г. турботай Рэпіна была сям'я малодшай дачкі Таццяны, якая засталася ў Здраўневе. У лістах са Здраўнева гэтага часу – цяжкая праца на пакінутым уладамі кавалку зямлі, жах высялення і рэпрэсій, голад, хваробы, радасць нараджэння дзяцей – праўнукаў Рэпіна. Мастак і яго старэйшая дачка Вера ў намаганнях дапамагчы сваім родным звярталіся ў самыя высокія інстанцыі, спрабавалі выкарыстоўваць усе магчымыя сувязі. Але, гэта ліставанне сведчыць і аб тым, што Вера Рэпіна захаплялась філатэліяй і не магла стрымаць жадання набыць савецкія маркі. Так, у лісце да пляменніцы выдатнага скульптара Алене Тарханавай-Антакольскай,







Вера піша: "Благодарю Вас очень за хорошие марки и очень извиняюсь за это беспокойство" (6 крас. 1930г.).

З вялікімі цяжкасцямі, на прыканцы жніўня 1930 г., сям'я Таццяны Рэпінай змагла вырвацца з СССР. Друзлы здраўнеўскі дом быў прададзены на дровы. Цікава, з гэтай нагоды гісторыя аўтапартрэта Рэпіна 1887г., які быў выкарастаны для маркі, прысвечанай 200-годзю Акадэміі мастацтваў СССР (1957г.) Карціна была напісана ў Фларэнцыі падчас падарожжа мастака па Еўропе, а ў 1920-я гады знаходзідася ў Здраўневе. Перад ад'ездам у Фінляндыю Таццяна Рэпіна прадала гэту працу Траццякоўскай галерэі. Адгукаясь на шырокавяшчальнае прызнанне Рэпіна ў СССР у сярэдзіне 1930-х гадоў, Таццяна Ільінічна пісала ў Зэелеру: " Это теперь, когда папа для них уже безвреден. А давно ли, когда я была в Третьяковской галерее и предлагала им купить папин автопортрет (мне нужны были деньги для заграничного паспорта), они предлагали мне 200 рублей (...) и сказали при этом: "Нам нужны новые молодые художники, а Репина нам довольно, уже и так вынесена часть в подвалы!!" Теперь же этот портрет стоит на мольберте, украшенный цветами! Видел бы папа, отбрил бы он их" (23 траўня 1936 г.)

Між тым, у савецкай філатэліі, як нікому з мастакоў, многа увагі надавалася Рэпіну. Існуе тры серыі марак, непасрэдна прысвечанных "самсону расейскага жывапісу". Гэта: се-




рыя 1944г. да 100-годзя з дня нараджэння мастака з пяці марак і іх разнавіднасцяў (аўтапартрэт 1878 г. і "Бурлакі", "Запарожцы"); серыя 1969г. да 125-годзя з дня нараджэння з пяці марак (аўтапартрэт 1878г., карціны: "Бурлакі", "Не чакалі", "Адмаўленне ад споведзі", "Запарожцы"). Да апошняй серыі былі выпушчаны КПД. На адной з марак серыі "Скульптурныя помнікі СССР" (1959г.) змешчаны помнік Рэпіну ў Маскве. У серыю "дзяржаўная Трэццякоўская галерэя" (1967г.) уваходзіць марка з карцінай "Арышт прапагандыста" (варыянта 1878 г.)







Партрэты працы І.Рэпіна выкарыстоўваліся пры афармленні марак, прысвечанных дзеячам культуры і навукі" Т.Шаўчэнку (тры маркі), В.Паленаву, А.Рубінштэйну, І.Сечанаву, П. Траццякову, У.Стасаву, В.Сурыкаву, В.Сярову, П.Мусарскаму.

Адназначна творчасць Рэпіна першая ў замежнай філатэліі. Рэпінскі партрэт П.Траццякова паказаны на блоке Мадагаскара з серыі "Трацякоўская галерэя" (1986г.). Партрэт Т.Шаўчэнкі змешчаны на марцы балгарыі (1961г.) У серыі марак Чэхаславакіі "Нацыянальная галерэя ў Празе" (1988г.) знайшлося месца для аўтапартрэта Рэпіна 1915г.

(заканчэнне на стар.10)

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013  © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



А аўтапартрэт 1899г. стаў асновай для маркі румыніі 1947г. з серыі "Румынска-савецкі навуковы інстытут. Рясейскія і румынскія дзеячы культуры".

У 1991 годзе Савецкі саюз знік і на гэтым спынілася і савецкая філатэлістычная рэпініяна. Гэта здарылася неўзабаве да 150-годзя з дня нараджэння Рэпіна. Дата знамянальная, значная і ,здавалася, 1994г. павінен быў даць старт расейскае рэпініяне. Але, на пытанне аб планах выдавецкага цэнтра "Марка" з гэтай нагоды, адказ быў атрыманы адмоўны: "Да 150-годзя Рэпіна нічога не плануецца. Занадта многа выпушчана ў прошлыя гады..." Прымая на свой рахунак філатэлістычную спадчыну СССР, расейская пошта праігнаравала юбілей нацыянальнага генія. І толькі ў серыі 1997г. да 100-годзя Рускага музею рэпінская праца ўпершыню ўзнікла на марцы Расеі. Сюжэт знаемы – "Бурлакі".

Але тое, што жыццевы і творчы шлях Рэпіна быў звязаны з Украінай і Беларуссю, выратавала юбілей мастака ў філатэліі.

Украіна выпусціла марку, канверт з партрэтам Рэпіна і правяла спецгашэнне. На украінскай марцы партрэт мастака па фотаздымку 1890г. суседнічае з інтэрпрытацыяй карціы Рэпіна "Гетман". Выпусцілі сваe канверт і паштоўку з выявай мастака па аўтапартрэту 1887 г. і ў Харкаве, паблізу якога, у Чыгуеве, нарадзіўся Ілля Яфімавіч.




Адзначыць юбілей Рэпіна беларускай пошце прапанавалі супрацоўнікі мр·Ззея-сядзібы "Здраўнева". Яшчэ вясной 1993г. у Міністэрстве сувязі і інфарматыкі Беларусі была адраўлена пісьмо з прапановай выпусціць да знамянальнай даты: канверт, мареаі, картмаксімум, правесці спецгашэнне -—такім чынам, усе па поўнай філатэлістычнай прагараме. Была і запаведная мара – спецыяльны "здраўненскі" штэмпель з пераводнай датай.

Ня ўсе ўдалася здзейсніць, але у міністэрстве з увагай аднесліся да пісьма. Выпуск марак быў унесены ў тэматычны план. Музейшчыкі прапанавалі змясціць на марках выяву будынка музея – адроджанай у 1989г. архітэктурнай фантазіі выдатнага жывапісца і карціну "Беларус", герой якой стаў увасабленнем душэўнай адкрытасці і шчырасці беларускага народу. І трэцяя тэма – вобраз самаго Іллі Рэпіна, але нязвыклага, многаразова тыражнага, а нашага, здраўнеўскага, якім захаваў яго віцебскі фатограф С.Юркоўскі.

Фотакопіі са здымкаў Юркоўскаг, каляровыя і чорна-белыя здымкі музея, зробленныя фатографам краязнаўчага музея Людмілай Ляшчовай, былі перададзены мінскаму мастаку Міхаілу бялову, якому было даручана падрыхтаваць праекты марак, канверта першага дня і штэмпеля спецгашэння. На наш погляд, М.Бялоў някепска выканаў даручэнне. Але уласныя магчымасці і вопыт вытворчасці філатэлістычный прадукцыі ў беларускай пошты тады быў невялікі. Калі пытанне з выраблennем канверта і штэмпеля было вырашана на месцы, то падрыхтоўка марак, якія друкаваліся ў Расеі, затрымалась і выпусціць іх да 5 жніўня (дню нараджэння Рэпіна) не паспелі, бо друкарня ўжо выконвала планавыя заказы па выпуску расейскіх марак.







Беларускія маркі, прысвечаныя рэпінскаму юбілею убачылі свет толькі 31 кастрычніка 1994 года. Спазненне прымусілі замест спецграшэння з выявай палітры і пэндзалеў выкарыстоўваць нізкаякасны стандартны штэмпель "Першы дзень".

Няўдала складалася справа і са "здраўнеўскім" штэмпелем. Пасля неаднаразовых дапрацовак праекту, міністэрства пакінула вырашэння гэтага пытання віцебскаму АВТУС. Неўзабаве, высветлілася, што за штэмпель, які павінен быў захоўвацца ў бліжайшым да Здраўнева аддзяленні сувязі г.п.Руба, музею прыдзецца выкласці звычайныя грошы. Гэта быў тупік...

Праз тры месяцы пасля выхаду марак, 1 лютага 1995г. музей Рэпіна ў Здраўневе быў знішчаны пажарам. Зараз прытулак рэпінскага натхнення на Віцебшчыне адраджаецца зноў. І зараз з гэтым жыве надзея, што беларускія філатэлістычная рэпініяна будзе мець працяг.

***Валеры Шышанаў.***

# Медальён

Цікавы экспанат знайшоў у Дамініканскім касцеле вескі Смальяны Уладзімір Дубовік, дзевяцікласнік нашай школы. Гэта медальён светлашэрага колеру, які захоўваецца цяпер у школьным музеі.

Медальён ручной работы выкананы невядомым майстрам з цвердага металічнага сплаву таўшчынёй 1мм. Мае форму выпуклага пустацелага сэрца, аб'ёмны.

Па краях на ніжняй і верхняй накрыўках – неглыбокія несечкі, якія аздабляюць вор. У верхняй частцы серца зроблена завеса з маленькім кальцом, што дае магчымасць медальёну раскрывацца. Такія ж кольцы ёсць і ўнізе на двух накрыўках.






*Манаграма – гэта стылізаваны надпіс імя Марыя.*

Унутры медальёна знаходзіцца маленькі тайнічок круглай формы дыяметрам 40 мм, жоўтага колеру ў сярэдзіне. Раскрываецца таксама з дапамогай завескі. На момант знаходкі тайнічок быў пусты, і мы цяпер можам толькі меркаваць аб знаходжанні там якіх-небудзь рэчаў.

На знешнім баку медальёна і на накрыўцы тайніка змешчана манаграма ордэна езуітаў IHS (Езус Адкупіцель Чалавека). Летась, прыкладна ў гэты час, у Оршы, на тэрыторыі манастыра езуітаў знойдзены два фрагменты паліванай каробчатай кафлі з царкоўнай эмблемай. Цікава, што манаграмы на кафлі, верхняй частцы і накрыўцы тайніка медальёна аднолькавыя. А вось ніжнюю манаграму – на супрацьлеглай накрыўцы нам дапамогуць расшыфраваць спецыялісты. Магчыма, гэта чые-небудзь ініцыялы. Мабыць гэта чалавека, які насіў медальён на сваіх грудзях ці быў пахаваны разам з ім.

*В.Мяжэвіч, кіраўнік гуртка "Спадчына" Смальянскай СШ*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013


# Пошта на Піншчыне

У канцы 80-х пачатку 90-х гадоў 18 ст. жыхары Пінскага павета адчувалі вялікую нязручнасць з адпраўкай пошты ў бліжэйшыя гарады і мястэчкі, не кажучы ўжо пра далёкія паселішчы. Гэтая нязручнасць была абумоўлена тым, што на Піншчыне было мала паштовых дарог і паштовых станцый. Тлумачылася гэта перш за ўсё прыроднымі ўмовамі краю: шматлікія лясы, рэкі, бясконцыя балоты – усё гэта не спрыяла будаўніцтву паштовых шляхоў. Напрыклад, для таго, каб паслаць ліст з Пінска ў Столін на адлегласць 15 міль (1 міля 7,798 км. У ВКЛ), трэба было пасылаць яго цераз паштовую станцыю ў Горадні, а гэта больш за 60 міль толькі ў адзін бок. Паведамленне, якое ішло акружнымі шляхамі і таму вельмі доўга, губляла сваю актуальнасць. Іншыя паштовыя станцыі знаходзіліся яшчэ далей – Вільня, Роўна. Таму жыхары павета ў канцы 18 стагоддзя звярнуліся з прашэннем у мясцовы соймік, каб удасканаліць паштовую службу на Піншчыне.

28 сакавіка 1791 года Грамадзянска-ваенная і Парадкавая камісія Пінскага павета прыняла пастанову, куды увайшла і скарга мясцовых жыхароў, на нязручнасць акружнога шляху і для купцоў, і для гандляроў, і для родзічаў.

Камісія накіравала паслоў (дэпутатаў) Пінскага павета ў Сойм у Варшаву, каб тыя, даставіўшы акт з пастановай, звярнуліся да дырэктара пошт аб змяненні руху пошт у Пінскім павеце. Пастанову камісіі падпісалі камісары Антанін Платэр, старшынствуючы, Ян Бутрымовіч, камергер (шамбелан), член камісіі Міхаіл Радзевіч і падпаручнік ВКЛ Каспер Корсак.

У той час пасламі Піншчыны ў чатырохгадовым сойме былі Матэўш Бутрымовіч – каралеўсуі камергер і Павел Шырма падстолій і пінскі гарадскі пісар. Выконваючы свае абавязкі перад суграмадзянамі, ускладзеныя на іх ў сейміку, яны склалі ў Варшаве пасольскую прапанову аб рэарганізацыі пошты на Піншчыне і 28 красавіка 1792 года ўручылі яе вялікаму пісару ВКЛ Дзедушыцкаму, генералу пошт краю. У першай прапанове гаварылася пра ўрэгуляванне руху пошт з Варшавы ў Пінск, з Пінска ў Столін, таму што на той час гэтыя гарады мелі соймікі. Для паляпшэння паштовай сувязі ў будуючым прапаноўвалі прадоўжыць паштовыя тракты са Століна да Роўна і з Пінска да Слоніма. Праект прадугледжваў тасама паляпшэнне ўжо існуючай на Піншчыне пошты. Асаблівая ўвага ўдзялялася новым паштовым трактам і станцыям. Каб звязаць Пінск з Варшавай быў распрацаваны паштовы тракт Пінск – Брэст-Літоўск – Варшава з размяшчэннем паштовых станцый. Прапаноўвалася, што станцыі будуць адна ад адной па адлегласці 3-4 мілі. Паміж Берасцем і Пінскам планавалася пабудаваць 5 паштовых станцый – у Булко, Кобрыне, Антопалі, Драгічыне, Янове і Дубае. Далей паштовая дарога павінна пралягаць ад Пінска да Смаленска са станцыямі ў Лапаціне і Вавічах. Ад Століна да Роўна меркавалася пабудаваць 5 стацый у Дамбровіцы, Нямавічах, Беражным, Людвіполі і Кожыцах. На тракце Пінск – Столін павінны быць пабудаваны тры станцыйныя дамы – у Лагішыне, Целеханах і Борках. Пасольскі праект меўся зацвердзіць на ўсіх гэтых станцыях пасады поштмайсцераў і іх намеснікаў, абавязкова з прыняццем прысягі і асабліва на тых станцыях, якія былі размешчаны ў паселішчах, дзе меліся панскія двары. Здаралася, што які-небудзь яснавяльможны пан, уладар вёскі прыяжджаў на пошту і дзеля цікавасці загадваў работніку пошты ламаць сургучовыя пячаткі і чытаць лісты, а пасля прачытання некаторыя затрымліваць. Каб такога больш не было, праект прадугледжваў адказнасць работніка паштовай станцыі за давераную яму карэспандэнцыю.




*«Пінск на пачатку XX стагоддзя»*
*Мастак Мікола Купава. Каляровая аўталітаграфія.*

Ажыццявіць гэты цікавы праект для пінскай пошты не ўдалося. Ён так і застаўся толькі праектам, які зараз пыліцца ў архіве. Усяму прычынай быў апошні раздзел Польшчы. І хоць праект не быў ніколі рэалізаваны, ён і сёння мае цікавасць.

Пакуль не ўдалося знайсці якіх-небудзь архіўных дакументаў, якія расказваюць пра развіцце пошты на Піншчыне ў пачатку 19 ст. У канцы ж 19 ст. вялікіх змен паштовая сувязь не мела.

У "Працах Мінскага губернскага статыстычнага камітэта" за 1870 год сказана, што "относительно сухопутного сообщения в Пинском уезде сказать хорошего мало". Паштовыя шляхі толькі два – з Пінска да Роўна і адрэзак Маскоўска-Варшаўскай шашы. На ровенскай дарозе знаходзіцца ўсяго толькі пяць паштовых станцый, не лічачы Пінскай.

За 22 вярсты ад Пінска – паштовая станцыя Дубаі. Тут – 5 ямшчыкоў, 11 коней і 5 экіпажаў. На станцыях павінны былі быць станцыйныя наглядчыкі, але з-за недахопу сродкаў такой пасады няма. У 21 вярсце ад Дубоя – паштовая станцыя Мохра з 8 коньмі, 4 ямшчыкамі і 4 экіпажамі, 17 вёрст далей – паштовая станцыя Любядзь з такой жа колькасцю ямшчыкоў і коней, а праз 10 вёрст – паштовы дом Любешаў, але гэта ўжо за межамі Пінскага павета.

На паштовай дарозе ад Пінска да Маскоўска-Варшаўскай шашы былі чатыры паштовыя станцыі. За 20 вёрст ад Пінска – станцыя Іванісаўка з 4 ямшчыкамі, 4 экіпажамі і 9 коньмі. Далей былі станцыі ў Лышчах, Бобрыку і Хаценічах. На ўсіх іх абслугоўванне было такое ж як і ў Іванісаўцы.

Пакуль няма якіх-небудзь звестак, калі ў Пінску была адчынена паштовая станцыя. Магчыма ў пачатку 18 ст., а можа нават і раней. Вядома, што ў 1734 годзе шляхта Берасцейскага ваяводства на рэляцыйным сойміку вынесла пастанову пра пошту. "...деятельность почты воеводства нашего, чтобы не прекращалось, силой принятых ранее уставов, отчисления на содержание почты с налога чопового шележнего ( налог с продажи спиртных напитков) от налогоплательщиков ежегодно доходили об обязанности этой напоминаем".

У рэестры вопісу маёмасці пінскай паштовай станцыі, складзеным у канцы 60-х гадоў 19 ст., было 5 экіпажаў, 5 коней, 10 суконных армякоў, 5 кажухоў, столькі ж пар рукавіц, 2 форменныя шапкі з цэшкамі, 4 бізуны, 3 пераносныя ліхтары, 1 канапа, 4 табурэткі, 2 стулы, 2 куфры, 2 ліхтары для асвятлення са слупа, 4 скураныя мяшкі, 4 такія ж сумкі і медны паштовы знак наглядчыка. Ямшчыкоў на паштовай станцыі было 5 і за імі замацавана 12 коней. Глядзеў за ўсёй гаспадаркай станцыйны наглядальнік.

Архіўныя дакументы сведчаць, што паштовая станцыя ў Пінску была ператворана ў пінскую паштовую кантору

*( працяг на стар. 10)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*(заканчэнне, пачатак на стар. 9)*

(павятовую) 1 студзеня 1830 года. А болей чым праз палову стагоддзя пасля адкрыцця пінскага тэлеграфа, 1 студзеня 1887 года пачала працаваць паштова-тэлеграфная кантора. У яе склад уваходзілі Лагішчанскі, Столінскі, Целеханскі, Парэчыцкі паштова-тэлеграфныя аддзяленніі Марчанскі, Плотніцкі, Пагост-Загародскі, Юхнавіцкі паштовыя аддзяленні. Самыя простыя паштовыя аперацыі – прыём простых і заказных лістоў, адбываліся ў Цярэбжскай і Хатыніцкай валасных управах.

У другой палове 19 ст. на Піншчыне быў адчынены паштовы тракт № 4. Ён праходзіў праз паштовую станцыю ў Лагішыне, абслугоўваўся 14 конямі. Шасцёра з іх належалі пінскай станцыі, а па чацвёра астатніх – целеханскай і лагішынскай. За правоз паштовай карэспандэнцыі (аднаго ліста) і эстафеты (тэрміновага ліста) бралася пагонная плата ў памеры 3 капейкі. За праезд аднаго пасажыра столькі ж. У залежнасці ад таго, ў якім стане дарога, плата за пасажыра калі-некалі дасягала 5 капеек. Адлегласць паміж станцыямі вымяралася вёрстамі і складала: Пінск-Лагішын – 28 вёрст, Лагішын-Целеханы – 24 вярсты.

Да 1901 года ў Пінску працавала толькі адно паштовае аддзяленне, якое знаходзілася далёка ад вакзала – у цэнтральнай частцы горада. Вакол вакзала і чыгуначных майстэрань пачало будавацца шмат дамоў і неўзабаве ўзнікла патрэба ў адкрыцці другога паштовага аддзялення. У лютым 1901 было пададзена прашэнне жыхароў у Мінскую паштовую акругую Прашэнне праляжала ў Галоўным упраўленні пошт і тэлеграфаў чатыры з паловай гады. І толькі ў жніўні 1905 года быў атрыманы адказ, дзе паведамлялася, што "ходотайство об открытии почтового отделения на ст. Пинск Полесских ж.д. по недостатку средств не может быть удовлетворено".

У верасні 1914 года жыхары прывакзальнага раёна зноў падалі прашэнне. І толькі з-за ваенных дзеянняў, канцэнтрацыі ў Пінску войскаў, са сваімі палявымі поштамі, шпіталяў, бежанцаў і г.д. – паштовае аддзяленне на вакзале было адчынена. На працягу ўсяго гэтага часу – з 1901 па 1915 год пошту ў Пінску ад паштовай канторы да вакзала вазіў адзін Лейзер Дзятлавіцкі. Ён таксама займаўся выемкай карэспандэнцыі з скрынь, якіх у Пінску было некалькі. Пінская пошта штогод заключала з ім дамову аб дастаўцы пошты па маршруту Пінск-Гарадзішча – Парахонск. Туды ж у той дзень нядзелі прывозіў пошту з Лунінца для абмену яго брат Мойша Дзятлоўскі.




Ці былі на пінскай паштовай станцыі штэмпелі – невядома. Не знойдзена лістоў таго часу. Філатэлістам вядома, што ў 1844 годзе Пінская паштовая кантора ўжывала аднарадковы штэмпель толькі з назвай горада "ПИНСКЪ". Дата адпраўлення пісьма пісалася работнікамі канторы ад рукі. Такі штэмпель захаваўся на лісце, які быў адпраўлены 13 чэрвеня 1844 года з Пінскага земскага суда ў Рэчыцкі. Побач з датай нумар "июня 13.1844 года № 1". Ліст казённы і таму адзначаны сургучнай пячаткай пінскага земскага суда. На адбітку праглядаюцца літары "С.З." (суд земскі) і герб Пінска – лук з нацягнутай цецівой і стралой.

Ужо ў 1845 годзе ў штэмпелях пінскай канторы з'явілася дата і ён стаў двухрадковым – "ПИНСКЪ/июня 5 1845". Вядомы яшчэ адзін штэмпель сярэдзіны 19 ст. Таксама двухрадковы, з тэкстам: "Пинскъ отпра(влено) 2 ноября 1853". Дата пісалася ад рукі.

На зыходзе 19 ст. пінская пошта выкарыстоўвала круг-




ла штэмпель з надпісам "Пинскъ почт. Контора 1 Минск.г.". У 20 стагоддзі штэмпелі змяніліся.




*Леў Коласаў 25.11.98г.*

# Наша Пошта

Дзень добры!

Дзякую за атрыманы раней нумар "Б.К.". дасылаю да Вас калекцыйныя матэрыялы – вінныя этыкеткі і адну ўпакоўку. Можа, калі гэта спатрэбіцца, ў адным з нумароў "Беларускага Калекцыянеру" надрукуйце. Цікава, што харчовыя этыкеткі, якія заўседы мілавалі душу сваей беларускамоўнасцю, зараз ужо зрабілі круты галс у бок расейшчыны, што вельмі і вельмі непрыемна.

Чамусці ААТ "Лідахарчканцэнтраты" вырабляе парашок гарчычны на дзвюх мовах замест, як раней, адной беларускай. Лепш бы на беларускай і польскай зрабілі. Тым больш, што гарчыца – яна і ў нас і ў Польшчы, - муштарда.

А сярод этыкетак, якія і дасылаю да Вас, есць піўная, якую выпрабіла А.П. "Крыніца"; дык невядома, чаму гэта піва жыгулеўскае, калі яно тутэйшае (як няма і ня можа быць "Шампанскага" не з Шампані, "Каньяку" не з Каньяка і гэтак далей).

Усе астатнія этыкеткі (вінныя і гарэлачныя) – выключна беларускія. Гэты я іх так выбраў – беларускія. Бо ведаю, што і сярод іх ёсць зруселыя двайнікі. Ну, ды такія нам не патрэбныя.

Усяго Вам Добрага! Выпускайце "Б.К." часцей чым 2 разы на год.

Буду вельмі рад атрымаць газету.

*З павагай,*
*Уладзіслаў Жыгалка,*
*г. Менск.*




© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013


# Сувеніры з Аўстраліі

У 1997 годзе польская пошта выпусціла ў абарачэнне марку з выявай партрэта Паўла Эдмунда Стшэлецкага і аўстралійскага кантынента




*мал. 1*

(мал1). Хто ж такі П.Э.Стшэлецкі і якое дачыненне ен мае да Аўстраліі? Калі прыглядзецца да паштовай мініяцюры, то можна заўважыць, што на фоне кантынента адлюстраваны горны пейзаж з вяршыняй, назва якой – гара Касцюшкі. П.Э.Стшэлецкі – вядомы польскі вучоны і вандроўнік 19 ст. Даследчык Вялікага Вадападзельнага хрыбта ў Аўстраліі, які адкрыў вышэйшую кропку гэтага горнага масіва, назваў гэтую вяршыню імем Касцюшкі. Выпуск мініяцюры прымеркаваны да 200-ай гадавіны з дня нараджэння вучонага ў 1840 годзе. У лютым 1840 года П.Э. Стшэлецкі даследуючы Аўстралійскія Альпы, знайшоў, як ен лічыў, вышэйшую вяршыню гэтых гор. Ен тут жа вырашыў надаць ей імя Касцюшкі – нацыянальнага героя сваей краіны. У адным з лістоў да сваей нявесты П.Э.Стшэлецкі пісаў, што "Эту вершину, никем до меня не посещаемую, с ее вечными снегами, тишиной и величественностью, я использую, чтобы увековечить в памяти будущих поколений этого континента имя родное и уважаемое каждым поляком, каждым сподвижником свободы ... В чужом краю, на чужой земле, но среди свободного народа, я не смог удержаться от присвоения ей названия – гора Кастюшки".

Але здарылася так, што назва «гара Касцюшкі» за вяршыняй не ўтрымалася.

П.Э.Стшэлецкі памыліўся ў разліках, таму што не меў дакладных прыбораў. Гара была не самай высокай у Аўстраліі. У 1846 – 1850 гг. географ Томас Таўсенд даследуючы Вялікі Водападзельны хрыбет (тыя ж аўстралійскія Альпы) выявіў памылку Стшэлецкага. У 80-х гадах 19 ст. вучоны-заолаг Роберт Лендэнфельд выправіў памылку польскага вандроўніка ў вымярэннях гары і змяніў яе назву на – гару Монд Таўсенд, а найвышэйшай вяршыні горнага масіва надаў імя нямецкага прыродазнаўца, даследчыка Мюллера, і ўсе ж нагор"е каля гэтых дзвюх вяршынь прапанаваў назваць – групай Касцюшкі. Аднак усе гэтыя прапановы з новымі назвамі былі сустрэчаны недобрахвотна жыхарамі кантыненту; ім спадабалася ранейшая назва гары. Былі праведзены паўторныя, болей дакладныя вымярэнні самай вялікай кропкі Аўстраліі і было вызначана, што яе вышыня 7308 футаў ці 2230 метраў (гара знаходзіцца на поўдні ад Канберы) над узроўнем мора. І гэтай вяршыні было надана імя Т.Касцюшка. Вось кароткая гісторыя надання вяршыні Вялікага Водападзельнага хрыбта ў Аўстраліі імя ўражэнца Беларусі – Т. Касцюшкі. Але наш аповяд не толькі аб гэтай гісторыі. Есць яшчэ філатэлістычная гісторыя гэтай гары.

Гэта, мабыць, адзіная ў свеце горная вяршыня, якой прысвечана вялікая колькасць філатэлістычных выпускаў. Упершыню спецыяльны штэмпель з подпісам "Гара Касцюшка. Аўстралія" быў выкарыстаны поштай гэтай краіны ў 1955 годзе і выкарыстоўваўся на працягу пяці год – да 1960 г. (мал. 2), у той жа час з 1955 па 1957 год выкарыстоўваўся і другі спецыяльны штэмпель з выявай вяршыні гары Касцюшкі і постаці лыжніка. На штэмпелі была пазначана вышыня гары "7308 FT" (мал. 3а). У 1957 годзе штэмпель (мал. 3) быў зменены на штэмпель (мал. 4), якім гасілася карэспандэнцыя ў 1957-1972 гадах. За гэты час штэмпель мяняўся тройчы (знасіўся).

*мал. 2*

*мал. 3*

*мал. 4*




*мал. 3а*

Упершыню партрэт П.Э.-Стшэльскага з"явіўся на аўстралійскім штэмпелі ў 1973 (мал. 5), калі адзначалася стагоддзе смерці вучонага . Тады ж аўстралійская пошта выпусціла спецыяльны канверт з партрэтам вучонага. У 1983 годзе была выпушчана марка, прысвечаная П.Э.Стшэлецкаму, спецыяльная паштоўка для картмаксімума (мал.6 ). За перыяд з 1955 па 1993 год пошта Аўстраліі выкарыстала болей за 13 розных спецыяльных штэмпеляў, прысвечаных першаадкрывальніку гары Касцюшкі і самой вяршыні (мал. 7-12), выданы таксама каляровыя паштоўкі з выявай гары Касцюшкі (мал. 13).




*мал. 5*




*мал. 6*




*мал. 8*

Усе гэтыя паштовыя сувеніры далекай Аўстраліі маюць адносіны да беларускай тэматыкі ў філатэліі.

***Леў Коласаў.***




*мал. 9*




*мал. 7*




*мал. 10*




*мал. 11*



*мал. 12*




*мал. 13*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013


# Беларусіка

Яшчэ зусім нядаўна ўсяго некалькі марак, выпушчаных паштовымі ведамствамі краін далёкага замежжа, былі прысвечаны беларускай тэматыцы. Гэта былі маркі Манака, Францыі, Чылі, Цэнтральнай Афрыканскай Рэспублікі, Рэспублікі Мадагаскар, Манголіі, КНДР. Аб кожнай з гэтах марак можна шмат чаго сказаць. З кожным годам колькасць паштовых марак, якія адносяцца да тэмы "Беларусіка", павялічвае ААН, Расея, Польшча, ГДР, Чэхаславакія, Афганістан, Балгарыя, Арменія, ЗША, Аўстралія, Літва – вось далёка не поўны пералік краін, маркі якіх маюць дачыненне да гэтай папулярнай сярод беларускіх філатэлістаў тэмы. Тут не пералічаны некаторыя афрыканскія краіны і астраўныя дзяржавы, адзначыўшыя выданнем марак і блокаў 100-годдзе з дня нараджэння М.Шагала.



У 1996 годзе да дзяржаў, якія выдавалі маркі па тэме "Беларусіка", далучыўся Ватыкан. Марка была прымеркавана да 400-годдзя Берасцейскай уніі 1596 года – пагадненню аб'яднання на тэрыторыі Рэчы Паспалітай праваслаўнай і каталіцкай цэркваў на ўмовах прызнання зверхнасці Папы Рымскага. У 1839 годзе на тэрыторыі Беларусі Берасцейская унія скасавана Полацкім саборам.

На марцы выява анёла, які стаіць на зямным шары і трымае ў руках праваслаўны і каталіцкі крыжы. На мініяцюры адлюстроўваецца герб Ватыкана і юбілейны тэкст: "400 лет Унии в Брест – Литовске, 1596 – 1996".

У серыі 2 паштовыя мініяцюры – адна распавядае аб Берасцейскай уніі 1596 года, другая прысвечана 350-годдзю Ужгарадскай уніі 1646 года.

*Лей Коласаў*

# Выстава ў Гданьску




***У канцы мая ў Гданьску (Польша) адбылася выстава-паказ беларускіх паштовых марак, арганізаваная рэспубліканскім аб"яднаннем (РА) "Белпошта", Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь у Гданьску са згоды і пры падтрымцы Акруговай дырэкцыі польскай пошты ў Гданьску. Экспазіцыя была разгорнута ў Белай зале гарадской ратушы (цяпер музей гісторыі горада). На адкрыцці выставы прысутнічалі міністр сувязі Польшчы М.Здраеўскі, дырэктар гданьскай пошты Л.Жэлеўскі, генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Гданьску А.Берабеня, дэлегацыя РА "Белпошта", работнікі гданьскай пошты, прадстаўнікі мясцовай улады, гданьскія і беларускія філатэлісты, шматлікія госці.***

Усе прысутныя з цікавасцю агледзелі экспазіцыю, у якой былі паказаны ўсе знакі паштовай аплаты, выдадзеныя беларускай поштай з моманту ўтварэння Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя заняла 22 экраны. На іх можна было ўбачыць маркі, прысвечаныя гісторыі рэспублікі, вядомым асобам краіны, архітэктуры, мастацтву, жывапісу, флоры і фауне, розным юбілеям. Экспазіцыя РА "Белпошта" і выдавецкага цэнтра "Марка" была дапоўнена цікавымі матэрыяламі – старымі паштоўкамі з адлюстраваннямі беларусаў у нацыянальным адзенні і відамі гарадоў Беларусі канца 19- пачатку 20 стагоддзяў з фондаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.




Удзельнічалі ў гэтай выставе і беларускія філатэлісты. Былі паказаны фрагменты калекцыі Л.Коласава "Старыя лісты Беларусі", якія расказалі наведвальнікам вернісажа аб гісторыі развіцця пошты на Беларусі з 18 стагоддзя. Іншыя калекцыі распавядалі аб удзеле беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, вызваленні рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў у 1944 годзе. Былі прадстаўлены таксама маркі, выдадзеныя ў розных краінах свету, якія адлюстравалі беларускую тэматыку.

Дырэкцыя пошты ў Гданьску прымеркавала да адкрыцця выставы выпуск паштовай карткі з эмблемамі польскай пошты і РА "Белпошта". У дзень адкрыцця выставы ў Ратушы працавала выязное паштовае аддзяленне сувязі. Тут філатэлісты і госці выставы маглі пагасіць карэспандэнцыю спецыяльным штэмпелем польскай пошты з тэкстам на паштовых марках: «Рэспубліка Беларусь. Белпошта. Гданьск – 50», набыць наборы беларускіх марак, пагасіць філатэлістычныя сувеніры беларускім спецыяльным штэмпелем з надпісам: "Філатэлістычная выстава "Паштовыя маркі Беларусі. Беларусь – Гданьск".

Да выставы польскі бок выдаў спецыяльны буклет на дзвюх мовах, які прадставіў наведвальнікам экспазіцыю. "Белпошта" выпусціла спецыяльную паштоўку з відарысамі Менска і Гданьска і адбіткам спецштэмпеля, створаную беларускімі і польскімі мастакамі.

Невялікая экспазіцыя беларускіх марак, арганізаваная "Белпоштай" пры дапамозе Беларускага саюза філатэлістаў, пазнаеміла шматлікіх наведвальнікаў музея – турыстаў з розных краін і гарадоў Польшчы, жыхароў горада (асабліва школьнікаў), філатэлістаў Гданьска і шэрагу іншых гарадоў – з Рэспублікай Беларусь.

***Лей Коласаў***
***("Голас Радзімы" № 27,1998г.)***

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Горад якога няма

**Віцебскі карданажна-паліграфічны камбінат накладам 500 асобнікаў выпусціў камплект калекцыйных паштовак з фондаў музейнага комплексу «Гісторыя і культура Аршаншчыны».**



У каплект уваходзяць 15 рэпрадукцый паштовак канца XIX — пачатку XX стагоддзяў з відарысамі Оршы. Рэпрадукцыі яшчэ дзвюх паштовак змешчаны на вокладцы камплекта. З выхадных дадзеных можна даведацца, што камплект выдадзены пры ўдзеле віцебскага ТАА «Дызайн - Цэнтр», таксама супрацоўніка аршанскана этнаграфічнага музея «Млын» Уладзіміра Кузубава, чаго на вокладцы вы не прачытаеце.

Напрыканцы XIX стагоддзя з шырокім распаўсюджваннем фотасалонаў Воршу пачынаюць актыўна фатаграфаваць. Адна за адной выходзяць серыі фатаграфічных паштовых картак з відарысамі горада. У выдадзеным камплекце можна прасачыць па меншай меры чатыры розныя серыі паштовак, з якіх выбраны арыгіналы для рэпрадукцый. Шмат паштовак гэтага часу сабрана ў музейных фондах, але далёка не ўсе. Сустракаюцца яны і ў прыватных калекцыях, а дзенідзе яшчэ і ў сямейных фотаальбомах. Нельга сказаць, што падобныя фотапаштоўкі былі характэрныя толькі для Оршы. Тады выходзілі серыі з відарысамі многіх градоў. Але Оршу здымалі шмат і часта. Яе нібыта спяшаліся ўвасобіць на фотаплёнцы. Нібыта аршанцы наперад ведалі, што пройдзе не так шмат часу і гэтай старой Оршы, якую яны ведалі і любілі, не стане. Улетку сорак чацвёртага гэтая старая Орша знікне, ператворыцца ў друз, папялішча ды груды бітае цэглы. Пад градам савецкіх бомбаў і снарадаў стары горад знікне. А тыя нешматлікія фрагменты старой Оршы, што цудам ацалелі ў полымі вайны, былі знішчаны ў паваенны час. І гэтае знішчэнне не спынена і сёння.

З пачаткам Першай сусветнай вайны выпуск фотапаштовак з відарысамі Оршы паступова згасае. Не ўзнаўляўся ён і пасля заканчэння грамадзянскай вайны ў Расіі, так што мы сёння маем даволі слабое ўяўленне аб тым, як выглядала Орша ў 20 - 30-я гады. Не на шмат болей захавалася іканаграфічнага матэрыялу Оршы 40 - 50 гадоў. У асноўным гэта выпадковыя аматарскія фотаздымкі. Ды і што было здымаць? Архітэктурныя помнікі былі разбураны, або стаялі ў руінах. Не здымаць жа ўвесь час чыгуначны вакзал ды будынак гасцініцы «Орша»?

## СТАРАЯ ОРША




*Паштоўкі канца XIX - пачатку XX стагоддзя з фондаў музейнага комплексу "Гісторыя і культура Аршаншчыны"*

Такім чынам, дзякуючы гэтым старым фотапаштоўкам, мы маем магчымасць сёння зірнуць на тую старую, такую незнаёмую і непадобную да сённяшняй Оршы. Гэтыя серыі фотапаштовак могуць сказаць шмат чаго цікавага не толькі пра горад, але і самі пра сябе, сваіх аўтараў і выдаўцоў. Яны яшчэ чакаюць свайго даследчыка. Але ж, здаецца, прыйшоў час падумаць пра аднаўленне традыцыі выдання фотапаштовак з відарысамі найбольш цікавых і памятных мясцін горада сёння. З выданнем насценнага календара на 1997 - 1998 гады з каляровымі фотаздымкамі Оршы першы крок у гэтым напрамку зроблены. Магчыма, яго нельга назваць бездакорным, але, тым не менш, мусім спадзявацца, што наступныя будуць больш удалымі і не прымусяць сябе доўга чакаць.



*Юры Копцік*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013  © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013


# Гістарычны канверт

**Сёлета беларуская пошта выпусціла цікавы канверт з друкарскай маркай "А" – без наміналу, для ўнутранага карыстання.**




Выпуск канверта адзначыў гістарычную падзею, што адбылася 500 гадоў таму.

На канверце – малюнак вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка, пазней караля Польшчы (1501-1506), каля старадаўняга гербу Полацка і будынкаў горада. Тут жа пададзена дата – 1498. Менавіта ў гэтам годзе вялікі князь Аляксандр даў гораду Магдэбургскае права. На канверце надпісы: "500 гадоў з часу надання Полацку Магдэбурскага права". Аўтар выявы на канверце – мастак М.Купава.

**Леў Коласаў**

## Беларускія каляндарыкі















ПРАПАНУЮЦЦА НА ПРОДАЖ
МАРКІ
БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ
выдадзеныя Уладзімірам Шыманцом і Віталём Кажаном у 1949-1950 гг.

Кошт сэрыі з 11 марак розных колераў з дасылкай $25. Зьвяртацца на адрас: P.O.Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, USA

---

**Шукаю партнера па абмену паштовых марак Польшчы на маркі Беларусі, маркі Беларусі № 37-38, 40-45, 44А-45А, 46-51, 50А-51А, 82-83 у аркушу, 98, 168, 169-185, 186-198. Разлік па каталогу Michel. Jozef Martela, ul.Konopnickiej 24, 43-450 Ustron, POLSKA (Польшча).**

**Шукаю паштовыя маркі БНР, пошту беларускага замежжа, лісты і маркі Сярэдняй Літвы, Генерал-губернатарства (Польшчу 1939 – 1941 г.г.) і іншае зьвязанае з поштай на Беларусі да канца 2-й сусветнай вайны. 230003 Гародня-3 п/с 110 Андрусь Мялешка (адкажу на ўсе лісты).**

***Набуду талоны і карткі ўзору 1998года, як арыгіналы, так і копіі. А. Іваноўскі, вул. Флёрава, 7-16 Ворша 211030***

**Прадаю маркі Беларускай Народнай Рэспублікі: серыю з 4 марак, якая прысьвечана 40-ым угодкам Слуцкага збройнага чыну (1960г.), і серыю з 2 марак да 450-ых угодкаў друку ў Беларусі (1976г.), кошт разам з дасылкай – сума ў беларускіх рублях эквівалентная 1$ і 0,5$ адпаведна. Алесь Сабаленка, п/с 268, 220131, Менск.**

**ПРАДАЮЦЦА ЗНАЧКІ "ПАГОНІ" З ЗОЛАТА на бел-чырвона-белым фоне. Кошт $50. Зьвяртацца на адрас: P.O.Box 310178, Yamaica, N.Y. 11431-0178, USA**

**Прадаю серыю з 4-х марак Беларускай Народнай Рэспублікі, якая прысвечана 40-м угодкам Слуцкага збройнага чыну. Кошт 200 000 рублёў. Алесь Сабаленка, п/с 268 220131, г.Менск, Беларусь**

**Збіраю этыкеткі ад піва. Прапаную абмен. Андрэй, 222160, Жодзіна, зав. Будаўнікоў, 6-5**

**Да ведама філатэлістаў! У Менску па вул. Маскоўскай, 16 працуе крама "Філатэлія". Праезд метро да станцыі "Інстытут Культуры". Рэжым працы: панядзелак-субота 9:00-13.00, 13.30-20.00, нядзеля 9.00-13.00, 13.30-17.30**

**Прапаноўваюцца беларускія дзіцячыя відэакасеты: "Прыгажуня ў сонным лесе", "Аліса ў краіне цудаў", а таксама аўдыакасета "Беларускія калыханкі і казкі".Усе прафісійна агучана акторамі менскіх тэатраў. Звяртацца на адрас: 220131, Менск, вул. Шырокая, 56 ці па тэл. (017)2284587, (017)2284588.**

**Украінскі калекцыянер у абмен на украінскія філятэлістычныя матар'ялы / маркі, КПД, СГ/ і МХК СССР жадае набыць філматар'ялы Беларусі і ХМК СССР украінскай тэматыкі. 254208, Украіна, Кіеў, п/с38, Яўтушэнка А.М.**

**Вельмі цікаўлюся ўсімі прадметамі калекцыяваньня (артыкулы, маркі, паштоўкі, кнігі) з выявамі Тадэвуша Касьцюшкі і інфармацыяй пра яго, паўстаньне 1797 году, дывізію імя Тадэвуша Касьцюшкі Народнага Войска Польскага. Krzysztof Lachowicz, skr.poczt. 50-984 Wroclaw 27, POLSKA (Польшча).**

Газета
"Беларускі Калекцыянер"
Год заснавання 1990
Рэдактар: Алесь Сярожкін
Рэдакцыйная калегія:
Юры Санько, Алег Граблеўскі.
Вёрстка: Зміцер Шарамет

Пры перадруку спасылацца на "Беларускі Калекцыянер". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае й не рэцэнзуе. Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Газета выдаецца з дапамогай Цэнтра Філоны Кміты. Падпісана ў друк 2.11.99г.

Адрас для допісаў:
Сярожкін А.М.
211030,
Орша-9, п/с 46, Беларусь.
Наклад 299 асобнікаў.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013